© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: НА ПОЛЬСКІМ КАСМАДРОМЕ — ЛІТАР + 1000 зл = ТУРМА — ЛЯВОНЬКА

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (385) | ГОД VIII | 14 ЛІПЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



ПАСЛЯЗ'ЕЗДАЎСКІЯ ЗАМЕТКІ

# АБ ТЭАТРЫ

Значыць — беларускі дзяржаўны тэатр. Аб ім гаварылі тры гады таму на III З'ездзе БГКТ. Нават была пастанова. На апошнім нядаўнім IV З'ездзе зноў аб тэатры. Закід у бок ГП БГКТ, што занядбала, «не зацікавілася». Новая пастанова аб тэатры.

І што? Большасць доказаў, якімі прыхільнікі ўтварэння тэатра аперыруюць, грэшыць недадуманасцю, а што за тым ідзе — яны не пераконваюць. Больш — доказы адарваны ад канкрэтных Беластоцкіх умоў, ад нашага асяроддзя. Цяжка ратаваць за прафесіянальны тэатр фактам, што «драмгурткі не выходзяць па-за рамкі сваёй аколіцы», калі іменна такое іх заданне. Або, што «самадзейнасць не ствараe жыццёвых перспектыў маладым людзям — самадзейнікам, часта школьнай моладзі», якая закончыўшы школу можа і павінна ісці далей вучыцца. Смешным было б думаць, што ўсе маладыя людзі з драмгурткоў павінны стаць артыстамі. Канкрэтныя Беластоцкія ўмовы на зарэз патрабуюць, напрыклад, інжынераў-аграномаў і тут моладзь мае дасканалыя жыццёвыя перспектывы.

Або прыклад «Лявоніхі», які таксама мае сведчыць аб патрэбе беларускага дзяржаўнага тэатра. Тут здаецца набліжаемся да істоты справы. «Лявоніха» папулярная і аператыўная, але толькі таму, што ў ёй 8 асоб. Яна лёгкая і вольная. Можа выступаць нават на сталах (калі няма сцэны), і таму здольна абслугоўваць вёску.

А тэатр? Выязная група (значыць упрошчаная) тэатра імя Вянгеркі з цяжкасцю выступае на павятовых сцэнах, а куды ж ужо гаварыць аб мястэчках і вёсках. Тэатр мае свае патрабаванні, свае вымогі і нічога на гэта не парадзім, але помніць неабходна. Бо астаткова не найбольшая штука ўтварыць тэатр. Заложым, што ўлады (Міністэрства культуры і Міністэрства ўнутраных спраў — паводле пастановы IV З'езда) рэалізавалі нашае патрабаванне — утварылі нам беларускі дзяржаўны тэатр. І што далей. Трэба моцна сумнявацца, ці ў цяперашніх умовах гэта што дало б. Чаго толькі не робіць існуючы Беластоцкі тэатр, каб прыцягнуць гледачоў, а яны не ідуць. Бо фільм, бо радыё, бо тэлевізія, дзе можна седзячы на ложку ў хаце пабачыць любую п'есу.

Усё гэта, можа хто сказаць, прыводжу для таго, каб даказаць, што беларускі тэатр непатрэбны. Але не ў тым справа. Хутчэй у тым, каб не пачынаць работу ад канца. («Дамагацца» — гэта не форма працы ГП.) Каб не крытыкаваць на наступным з'ездзе Галоўнае праўленне, што не рэалізавала пастановы з'езда адносна «ўтварэння беларускага дзяржаўнага тэатра з сядзібай у Беластоку».

Галоўнае праўленне пакуль не мае асноў дамагацца ад улад утварэння тэатра (не чужымі рукамі жар заграбаць). Яно павінна ўласнымі сіламі прыступіць да арганізавання драматычнага гуртка пры ГП. Для гэтага рэальныя ўмовы ёсць (сцэна і зала на 200 асоб у будынку ГП).

(Працяг на стар. 5)

А. ЛОЙКА

## Белавежская пушча

Вечнасць спачыла на кронах,
На бураломе скарэлым.
Ў прыцемку шыза-зялёным —
Сонейка доўгія стрэлы.

Дрэвы — нязмоўчная сага,
Кожнае ў пару абхватаў,
Кожнае поўна павагі,
Нібы сыйшліся на свята.

Спеў іх алень чутны чуе,
Зубр, што ў загоне начуе.
Воўк з немым вокам агністым,
Вепр у лагчыне багністай.

Слухаў і я б яго, слухаў, —
З пушчаю зліўшыся духам, —
Можа чутно ў гэтым гудзе
Ўсё, што было, ёсць і будзе?..

Слухаў бы спеў соснаў мілых..
Толькі —
прызнацца я мушу —
Сэрца мне штосьці таміла...
Вечнасці мо' раўнадушша,

Тое, з якім дуб адвечны
Рос над канаючым турам,
Тое, з каторым бяспечна
Вецер зубрам пеў хаўтуры?..

Каб жа не гэтая дрэма
Соннага раўнадушша,
Самай найлепшай паэмай
Ты была б, сага пушчы!..

# НА КАНІКУЛЫ

**Школа ў Ялоўцы — гэта рэдкасць у Беластоцкім ваяводстве. Яна пабудавана яшчэ ў 1815 годзе. У час апошняй вайны была амаль зусім развалена.**

**Зараз яна перажывае сваю другую маладосць. Школа не толькі цалкам адбудавана, але яна багата абсталявана ўсялякімі дапаможнікамі. Вартасць школьнай маёмасці ў Ялоўцы сягае амаль 2 мільёнаў злотых.**

**Як вядома, сёлеташні школьны год закончыўся 29 чэрвеня. Урачыста развіталіся з ім вучні ў Ялоўцы.**



Першакласнікі... не, ужо яны ў другім класе, але атэстат — гэтую цудоўную паперку — атрымоўваюць упершыню.



Яшчэ толькі апошнія пажаданні настаўніцы (справа) і бывай пачатковая школа!



Прагрымеў апошні ў бягучым школьным годзе званок. Вучні апошні раз ідуць у школу. Але дзіцячы гоман у Ялоўскай школе не сціхне і ў час канікул. Тут адпачываюць дзеці з Беластока.

Фота В. Рудчык

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Новыя шанцы Маскоўскай нарады

15 ліпеня бягучага года пачнуцца ў Маскве перагаворы СССР, ЗША і Вялікабрытаніі на тэму спынення доследаў з атамнымі і вадароднымі бомбамі. Несумненна будуць гэта перагаворы, аб якіх ужо зараз можна гаварыць з вялікай надзеяй. Паколькі ў час Жэнеўскіх перагавораў заходнія дзяржавы вышукоўвалі мноства прычын, каб толькі адцягнуць астатковае падпісанне пагаднення аб спыненні тэрмаядзерных доследаў (угары), то ў Маскве стануць яны ў наяўнасці новых прапаноў СССР. Аб гэтых новых прапановах гаварыў М.С. Хрушчоў у Берліне ў час выступлення з нагоды 70 гадавіны нараджэння В. Ульбрыхта.

«Паколькі заходнія дзяржавы, — гаварыў М. С. Хрушчоў, — ставяць перашкоды адносна пагаднення ў справе спынення ўсіх нуклеарных доследаў, урад СССР выказвае гатоўнасць падпісаць пагадненне ў справе спынення такіх доследаў у атмасферы, касмічных прасторах і пад вадой».

Прапанова гэтая выключае з пагаднення падзямельныя нуклеарныя выбухі, спыненне якіх Захад спалучаў з пэрагам тэрытарыяльных кантроляў, аб выразна шпіёнскіх мэтах. Прыняццё гэтай новай савецкай прапановы, на якую, дарэчы, Захад згадзіўся ў папярэднім часе, выключае патрэбу вядзення тэрытарыяльнага кантролю, таму што кожная дзяржава дыспануе прыладамі, пры дапамозе якіх можна выкрыць усялякія тэрмаядзерныя выбухі ў атмасферы і пад вадой.

Аднак варта аб гэтым ведаць, што пагадненне ў справе спынення тэрмаядзерных доследаў не развязвае шмат важных для справы міру праблем. Напрыклад, не можа яно ўздзейнічаць на спыненне гонкі ўзбраення, не можа таксама прадухіліць выбуху тэрмаядзернай вайны.

«Таму, — гаварыў М. С. Хрушчоў, — урад СССР думае, што ў час прыняцця пагаднення ў справе спынення нуклеарных доследаў, варта было б падпісаць пакт аб неагрэсіі паміж дзвюма галоўнымі мілітарнымі групоўкамі, краінамі, уваходзячымі ў склад НАТО і Варшаўскага дагавору».

Важнасць гэтай новай савецкай прапановы заключаецца ў тым, што прадугледжвае яна дзве вельмі неабходныя дзеля далейшага развіцця чалавецтва справы: увальняе свет ад вельмі шкоднага радыяактыўнага пылу і адсоўвае небяспеку выбуху тэрмаядзернай вайны. Апрача гэтага, пагадненне ў справе спынення ядзерных доследаў з адначасовым падпісаннем пакту аб неагрэсіі стварала б новую лепшую міжнародную атмасферу, у якой маглі б працягвацца шчырыя дыскусіі на тэму агульнага і канчатковага раззбраення.

Як жа ўспрынялі прапановы СССР урадуючыя колы ЗША і Вялікабрытаніі? Падрабязна даведаемся аб гэтым за некалькі дзён, калі ў Маскву прыедуць прадстаўнікі ЗША і Вялікабрытаніі. Аднак ужо зараз можна сказаць, што Захад разглядае савецкія прапановы з вялікай увагай. Характэрныя для становішча Захаду з'яўляюцца выказванні амерыканскай газеты «Нью Стэйцмэн». 5 ліпеня ў газеце было напісана: «Кенедзі і Макмілан адсунулі адну з перашкод, згаджаючыся на адлажэнне праблемы шматстаронных ядзерных сіл НАТО. Згадзіліся таксама паставіць на першым месцы ў час перагавораў Усход — Захад справу спынення тэрмаядзерных доследаў. Гэта залог здаровага розуму, асабліва ў святле прамовы Хрушчова ў Берліне.»

Калі погляды выказаныя ў «Нью Стэйцмэн» у рэчаіснасці пачынаюць перамагаць у Вашынгтоне і Лондане, то можам з аптымізмам глядзець на прабег Маскоўскіх перагавораў. Пішу «калі» таму, што з другога боку, на жаль, вядомыя асабліва ў Вашынгтоне моцныя ўплывы вайсковых кругоў, якія націскаюць на прэзідэнта Кенедзі ў напрамку захавання цвёрдага становішча. Адно з'яўляецца пэўным: па апошніх савецкіх прапановах голас належыць да заходніх дзяржаў. Жаданнем народаў з'яўляецца, каб гэта быў таксама голас міру.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

(АД УЛАСНАГА КАРЭСПАНДЭНТА)

# НА ПОЛЬСКІМ КАСМАДРОМЕ

Чацвёрты дзень сімпозыум журналістаў, якія займаюцца авіяцыйнай тэмай, меў быць найбольш цікавы. Але не папярэджвайма фактаў і пачнем спачатку. Пунктуальна ў 6 гадзін раніцы ад дома Таварыства польскіх журналістаў у Варшаве даволі вялікая група журналістаў, сярод якой знаходзіўся і аўтар гэтага рэпартажу, выехала аўтакарам у напрамку Чэнстаховы. Пасля некалькіх гадзін язды, нагружаныя чакаемай эмоцыяй, дасягнулі мэты.

Паўночны край Блэндоўскай пустыні. Пяскі рэдка парослыя расліннасцю, карлікавыя дрэвы, трохі засушанай травы. Сярод гэтай нештодзённай для польскага краявіду сцэнэрыі размешчаны «Польскі касмадром». Скажам шчыра, касмадром у мініяцюры. Тут знаходзіцца першы ў нашай краіне ракетны палігон, з якога стартуюць доследныя ракеты польскай канструкцыі. Мы мелі быць сведкамі першага страляння ў гэтым годзе.

Доследная група ракетнага цэнтра Кракаўскага аэраклуба, якая ад пяці год дзейнічае на краі карлікавага лесу, выстраліла штопраўда яшчэ не ў космас, але пакуль што на вышыню 8 тысяч метраў — 23 ракеты вагою ад 4,35 кг да 29 кг. Трохі спераду ў пясчанай катліне размясцілася пазіцыя камандавання, а за гэтым «мозгам» касмадрому і з левага і з правага бакоў — назіральныя пункты. Спераду паміж пясчанымі дзюнамі на стальных рыштаваннях змешчана памаляваныя на сярэбраны колер стройныя формы снарадаў. Абсталяванне ў прыборы як: выкідальнікі, пюпітры, румпелі, вымерныя камеры і назіральныя перыскопы, а таксама ракеты з'яўляюцца вынікам працы польскіх канструктараў. З доследным ракетным цэнтрам цесна супрацоўнічаюць таксама вучоныя і студэнты з Акадэміі гурніча - гутнічай у Кракаве. На пазіцыі камандвання сабраліся ўжо ўсе. Побач пры пюпітры да кіравання заняў месца канструктар выпрабоўваемых да гэтага часу ракет мгр інж. Яцэк Вальчак.

Металічныя канструкцыі выкідальніка нахілены пад вуглом 28 градусаў. Стройныя ракеты закончаныя ўверсе доўгім кап'ём, унізе плаўнікамі крылляў, чакаюць на старт. На назіральных пунктах, якія знаходзяцца ўкола выкідальніка, пануе раздражненне. Дрэннае надвор'е і цяжка правальваючыеся хмары не будуць саюзнікам у назіранні. Раптам угору ляціць чырвоная сігнальная ракета — гэта знак пачынаць пробу. Рашаючы момант. Выразна чуваць словы стартавай каманды, якія гаворацца ў мікрафон: 10... 9... 2... 1... 0... — Старт. У гэты момант інж. Мальчэўскі ўцісквае клавіш запалу. Выбух, стоўб агню, грукат і як маланка выскаквае ўгору ракета. Сярод выбуху, які змяняецца ў высокі вібрацыйны свіст, снарад цягне ўверх, значачы дарогу распаленай стужкай выкідваемых газаў. Момант і ракета недзе знікае ў хмарах, якія, на жаль, не дазваляюць убачыць развіваючагася зметалізаванага парашута, які нясе аддзеленае кап'ё ракеты. Проба з ракетаю «Раска —1» выпала паспяхова. За хвіліну стартуе другая ракета «RM—3W». Першая з іх важыць 9 кг. і даўжынёю ў 1,5 м, мае рухавік цягучасцю ў 320 кг і дасягае хуткасці 220 м/сек., а столь звыш 3 тысяч метраў. Другая, гэта ўжо «велікан», важыць 29 кг, даўжыні амаль 2 метры, прыгукавая хуткасць, столь, якая лічыць каля 7500 м. Цягучасць рухавіка выносіць 1800 кг. Для параўнання дадам, што цягучасць рухавіка рэактыўнага самалёта «Міг—15» лічыць 1600 кг.

У найбліжэйшы час доследны цэнтр пры дапамозе меншых ракет будзе рабіць сондаж атмасферы і даследваць забрудненне паветра ў Кракаве, Новай Гуце і на Сілезіі. Ракеты таксама будуць выкарыстоўвацца да брання пробак паветра і мерання напрамкаў і хуткасці ветру на акрэсленай вышыні. Кошт такой ракеты - сонды будзе толькі 200 зл. А карысць вялікая. Перад усім вялікая ашчаднасць у адносінах да правядзення тых самых прац пры дапамозе самалётаў. Апрача таго цэнтр можа зараз на самым версе ракеты заінсталяваць спецыяльныя прыборы, якія будуць перадаваць сігналы і вымярэнні, якія датычаць розных атмасферных з'яў.

Аднак праца пры канструкцыі патрабуе шмат часу, вялікага ўмення дакладнасці, а таксама вопыту. Гэтае апошняе польскія вучоныя і студэнты здабываюць менавіта ў Доследным ракетным цэнтры Кракаўскага аэраклуба.

Л. ТАРАСЕВІЧ

# XIII ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

4, 5 і 6 ліпеня 1963 г. адбываўся ў Варшаве XIII Пленум Цэнтральнага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пленум заслухаў даклад першага сакратара ЦК ПАРП тав. Уладзіслава Гамулкі «Аб актуальных праблемах ідэалагічнай працы партыі».

Пленум аднагалосна прыняў наступную пастанову: «Цэнтральны камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі сабраўшыся на XIII Пленум 4, 5 і 6 ліпеня 1963 года пасля заслуханага даклада І сакратар ЦК ПАРП тав. Уладзіслава Гамулкі «Аб актуальных праблемах ідэалагічнай працы партыі» зачытанага ад імя Палітычнага бюро ЦК ПАРП і пасля праведзенай шырокай дыскусіі пастанавіў даклад тав. Уладзіслава Гамулкі прыняць як дырэктывы партыі ў ідэалагічнай галіне».

У арганізацыйных справах Пленум аднагалосна прыняў да ведама ўступленне тав. Рамана Замброўскага з члена Палітбюро і саркатарыяту ЦК.

Пленум выбраў аднагалосна на сакратароў ЦК тав. Баляслава Яшчука і тав. Артура Старэвіча.

XIII Пленум пастанавіў таксама склікаць да Варшавы IV з'езд партыі ў першай палавіне 1964 года. Для падрыхтоўкі з'езда Пленум паклікаў З'ездавую Камісію.




Новы кіраўнік остбургскага обверштэле оберштурмфюрэр Готхард фон Зутэль рабіў усё, каб разблытаць справу аб загадковым забойстве свайго папярэдніка Больма і іншых работнікаў контрразведкі. На гэта былі кінуты найлепшыя сілы.

Неўзабаве пасля выпадку, калі групенфюрэр Упіц зайшоў чагосьці да фон Зутэля, сакратар начальніка абвера далажыў, што просіць прыняцця штурмфюрэр Торп. Фон Зутэль нерашуча глянуў на генерала. Той кіўнуў.

— Прыміце яго, — сказаў Упіц. — Гэта здольны чалавек. Паглядзім, што яму трэба.

Сакратар упусціў Торпа.

— Мы слухаем, — сказаў генерал. — Выкладвайце Торп, што там у вас здарылася?

— Я б хацеў пагаварыць аб трагічнай гібелі штандартэнфюрэра Больма і іншых...

187

— Не гібелі, а забойстве, — паправіў Упіц.

— Так, групенфюрэр, менавіта — забойства. Прычым зрабіла гэта руская разведка!

— Ого! — Упіц вынуў з рота сігарэту, абярнуўся да афіцэра: — Вы гаворыце цікавыя рэчы, Торп.

— Я ў гэтым перакананы, групенфюрэр.

— І патрапіце даказаць?

— Думаю, так... Трэцяга дня ў крыпо з'явіўся Ларх, уласнік бара «Нібелунгі», што непадалёк завода «Ганс Бемер». Ларх звязаны з паліцыяй. Ён расказаў, што за тры-чатыры гадзіны да забойства сустрэў Макса Вісбаха... Дык Вісбах знік у тую ж ноч, і толькі сляпы не бачыць, што гэты выпадкі звязаны.

— Далей, Торп.

— А Макс Вісбах быў у шынку не адзін! Ён сядзеў з чалавекам...

— Хто быў той, другі?

— Ларх гэтага не ведае.

— Не ведае? — зароў Упіц. — Дык якога ж чорта...

— Не ведае Ларх, але затое ведаю я, — сказаў Торп. — Ларх апісаў спадарожніка Вісбаха. Многа сходзіцца з аблічам чалавека, якога абрысавала ўдава Лізель Ланге, і я падазраю, што гэта быў уяўны капрал Краузэ. Карацей — ніткі вядуць да яе мужа, Герберта Ланге.

— Але яго няма ў жывых.

— Няма Ланге — ёсць Шталекер, найбліжэйшы сябар нябожчыка.

188

— Вы сочыце за Шталекерам звыш двух месяцаў, а даных супраць яго няма.

— Не было!

— Ого! Ёсць навасці?

— Так. Я толькі што вярнуўся з лагера ваеннапалонных, якіх прывёз з Аўшвіца дырэктар Кюметц. Ездзіў на сустрэчу з агентам Цюпай. Магчыма, вы памятаеце такога?

— Ну-ну, працягвайце!

— Цюпа данёс: выяўлены кінжал, які быў у Аўшвіцу, у вязня Андрэя. Цяперашняга ўладальніка кінжала завуць Трафім Кныш. Цюпа выявіў усё гэта ўчора. А сёння Кныш гутарыў...

— Са Шталекерам? — усклікнуў Упіц.

— Так, з ім! — Торп падыйшоў да стала. — Цяпер глянем на ўвесь ланцужок. Калі дапусціць, што звенні яго складаюць Краузэ, якога шукаем, Ланге і Шталекер, далейшыя Андрэй і Кныш, то не хапае толькі аднаго звяна — мы не ведаем, ад каго Андрэй атрымаў кінжал.

— Цяпер і не даведаецеся. Над гэтым палонным працавалі найлепшыя спецыялісты. Ён адправіўся да прабацькоў, так і не раскрыўшы рота... Але ўсё роўна, цяпер лягчэй. Займіцеся Шталекерам і тым... Як яго?..

— Кныш. — Торп абярнуўся да шэфа абвера. — Оберштурмфюрэр уключыў мяне ў групу па даследванню забойства штандартэнфюрэра Больма і іншых. Я хачу прасіць, каб мне далі магчымасць дзейнічаць самастойна.

— Добра, — сказаў генерал. — Вам гэта дазва-

189



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



# ЛЯВОНЬКА

Жыла старая бабуля — удава. У яе было двое дзяцей. Старэйшая дачка называлася Тэкля, а сын — Лявонька. Так яны ўтраіх разам пражылі доўгі час. Але Лявонька задумаў жаніцца. Тады яны пачалі спорыцці. Маці кажа:

— Не жаніся ты, Лявонька, трэба ўпярод выдаць замуж Тэклю.

А Лявонька адказвае:

— Доўга трэба будзе чакаць, бо які яе дурань возьме за жонку, калі яна ўжо старая ды гэтка няўклюжая.

А маці з Тэкляй напалі на Лявоньку і пачалі лаяці яго:

— Ты сам няўклюжы, ты сякі-такі, ты дурань.

А Лявонька адказвае:

— Вы самі дурныя і з вамі мне цяжка жыці.

— Ну, так ідзі сабе і пашукай разумных, — галасілі бабы.

— Дый і пайду. Як найду дурнейшых за вас, то вярнуся, а як найду разумнейшых, то не вярнуся да вас.

Сабраўся Лявонька і пайшоў. Ідзе, ажно бачыць, сядзіць мужчына на страсе хаты і трымае за канец вяроўку ў руках, а вяроўка завязана карове за рогі. Стаіць драбіна, а баба папіхае карову. Падыходзіць Лявонька дый пытае:

— Што вы гэта робіце, добрыя людзі?

А баба адказвае:

— Я закамандавала завесці карову на хату.

— Нашто? — запытаўся Лявонька.

— А вось пабач, якая вялікая трава на хаце, няхай выесць карова, наесца і хата прыгажэйша будзе, а то як купіна травы на балоце выглядае.

— Ці маеце сярпа? — запытаў Лявонька.

Баба прынесла сярпа. Лявонька ўзяў серп у руку, залез на хату, стаў жаці траву ды кідаці карове, а карова траву есць ды паглядае весела ўверх на Лявоньку, а баба стаіць і дзівіцца, што гэта за чалавек такі хітры ды разумны. Потым пачала шчыра дзякаваць. А Лявонька пайшоў далей. Ідзе і бачыць, баба курыцу б'е. Падыходзіць Лявонька ды пытае:

— За што вы, цётка, курыцу б'еце, што яна, шкоду зрабіла?

А баба адказвае:

— Дык вось якая акаянная, захацела цюпінят і не дае ім жыці, а цюпінята есці хочуць.

— Ці маеш, цётка, крупу? — пытае Лявонька. — Прынясі крупу і кубак вады.

Баба прынесла. Узяў Лявонька ды насыпаў круп у воду, намачыў, насыпаў на дошку і курыца стала дзяўбсці ды цюпінят карміць. А баба шчыра падзякавала. Лявонька пайшоў далей. Ідзе, бачыць, сядзіць мужчына, а баба круглым паленам валіць мужчыну па галаве. Падыходзіць Лявонька і пытае:

— Што вы, цётка, робіце? За што вы б'еце чалавека?

Цётка гаворыць:

— Вось бачыце, я пашыла яму новую кашулю і хачу зрабіць дзірку на галаву.

— Ты, цётка, не бі мужыка, а прынясі лепш нажа.

Баба думала, што Лявонька хоча зарэзаць яе мужа, хутка пабегла дахаты, прынесла нажа. Лявонька ўзяў нажа, прарэзаў у кашулі дзірку на галаву і галава вылезла, у якой вочы былі вялікія як курынае яйка і чырвоныя як буракі. Схапіўся мужчына з зямлі і пачаў шчыра дзякаваць для Лявонькі за тое, што яго адратаваў ад смерці. А баба са злосці кажа:

— А годзе ўжо, заўзяўся гэтак шчыра дзякаваць.

— А табе што да гэтага, — адгрызнуўся мужык. — Думала, што як пашыла новую кашулю то і мазгі можна ў мужыка дастаці.

— Чорт іх пабірай з тваімі мазгамі. Я і кашулі не пашкадавала б, каб толькі цябе старога нехлюя пазбыцца.

Лявонька паслухаў, плюнуў ды і пайшоў далей. Ідзе, ды бачыць, баба выбегла з хаты на двор і ў руках трымае на сонцы рэшата, накрые хвартухом і бяжыць у хату, і зноў на двор.

Лявонька пытае:

— Што вы, цётка, гэта робіце?

— А бачыш, мой мужык паставіў хату і ў ёй няма сонца, то я хачу наносіці сонца ў хату.

— Ці маеш, цётка, сякеру?

— Маю, — адказвае баба.

— Прынясі сякеру сюды, — кажа Лявонька, — то я табе ўпушчу сонца ў хату.

Прынесла баба сякеру. Лявонька ўзяў сякеру, вырубаў у сцяне дзірку і ўбегла сонца дахаты. Села баба на сонцы грэецца ды цешыцца, што не трэба будзе рэшатам сонца насіці. Падзякавала шчыра цётка, а Лявонька адышоў, пастаяў, падумаў і павярнуў дадому, бо і так шмат дурных назнаходзіў. Ідзе і бачыць, што ў яго падворку якісьці мужчына з яго сястрою стаіць і штосьці так голасна між сабой гавораць. Падыходзіць Лявонька і пытае сястры Тэклі:

— Што гэта за чалавек?

Тэкля адказвае:

— То ж мой мужык.

— Які тут уліха мужык, скуль ты яго ўзяла?

Скуль узяла, то ўзяла, але замуж то ўжо выйшла.

— З якой вёскі і як яго называць? — пытае Лявонька.

— З вёскі Невядомка, імя Грыша, а прозвішча Жук.

Лявонька пытае:

— Калі ж гэта было?

Тэкля адказвае:

— На трэці дзень як ты пайшоў прыехалі сваты, а за тыдняў тры зрабілі вяселле.

— Не маглі мяне і пачакаці, пакуль я вярнуся.

— А хто ж мог ведаці і знаці, чы ты вернешся чы не. Бо і мама чакала, чакала і так хацела пабачыцца з табой. Так і не дачакалася. Памерла небарака.

А Лявонька аж вочы вытарашчыў:

— То што і мамы няма?

— Няма, — адказала Тэкля.

Лявонька задумаўся, але яго думку перарваў Грыша:

— Не гаруй, Лявонька, мы з Тэкляй на тваёй гаспадарцы жыці не будзем, бо ў мяне свая някепская гаспадарка. Я толькі прышоў даглядаць твайго дабытку і дапільнаваці ўсяго, пакуль ты вернешся, а цяпер ажэнішся ды жыві сабе са сваёй жонкай..

Лявонька стаў думаці і гадаці, каго тут сабе за жонку ўзяці. Дзямянава глухавата, Казьмерава слепавата, Клімава старавата. Але Дзмітрава Ганула, хоць яшчэ маладая, але як гляне, то аж сэрца вяне. Узяў Лявонька свайго дзядзьку за свата і пайшоў да Дзмітра. Іх пазвалі ў хату і сталі яны гутарыць. Сват кажа:

(Працяг на стар. 5)



Яфім Бярэзін — «Штэпсель» — народны артыст УССР.

## ЗВЁЗДЫ ЭСТРАДЫ УКРАІНСКАЙ ССР НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

**23 ліпеня украінскія артысты з УССР пачынаюць серыю канцэртаў для Беласточчыны. У самым Беластоку выступяць адзін раз, 30 ліпеня. Усе дні раней будуць у іншых нашых гарадах. Між іншым у Гайнаўцы, Бельску, Чорнай Беластоцкай. А таксама ў Аўгустове, Замброве, Голдапі і Элку. Эстрада слаўная, праграма багатая: гумар, сатыра, песні, бандурысткі, танцы, акрабаты.**

**Слаўныя «Тарапунька» (Юры Цімашэнка) і «Штэпсель» (Яфім Бярэзін) прыехалі таксама і разам выступаюць у інтэрмедыях.**

**Білеты на Беластоцкі канцэрт прадае ТППР.**



Бандурысткі: Мая Галенка, Ніна Сафіенка, Тамара Грыцэнка.

---

ляецца, Торп. Дакладваць будзеце асабіста аберштурмбанфюрэру фон Зутэлю.

— Што вам яшчэ трэба? — спытаў фон Зутэль Торпа.

— Няхай за мною замацуюць паўдзюжыны агентаў з ліку найбольш правераных.

— Добра.

Торп выйшаў і накіраваўся на завод «Ганс Бемер». Так, усё атрымалася як трэба. Калі б устанавіць яшчэ былога камандзіра лагерніка Андрэя!..

*

У той час, калі штурмфюрэр Адольф Торп, закончыўшы гутарку са сваімі начальнікамі, ішоў па вуліцы, Аскер быў на завадскім двары ля аўтамабіля.

Падышла разносчыца папераў.

— Пана Губэ выклікае загадчык канцылярыі.

Аскер усміхнуўся дзяўчыне, выцер рукі, нетарапліва рушыў у кантору.

Крыгер прыняў Аскера ў сваім кабінеце — невялікім пакоі, які межаваўся з агульным памяшканнем, дзе сядзелі рахункаводы. Увайшоўшы, Аскер зняў і пакінуў на падаконніку шапку. Крыгер працягнуў канверт.

— Вазьміце, — сказаў ён, тут білет на заўтрашні поезд у Карлслуст.

Аскер схаваў канверт.

— Дзякую, — сказаў ён, паціскаючы Крыгеру руку. — Вы так памаглі мне...

Аскер не закончыў. Ён раптам замер, утарапіў-

190

шыся на завадскі двор. Крыгер бачыў, як напружыліся яго плечы і шыя.

— Што там? — трывожна спытаў ён.

— Гэтага бачыце?

Крыгер паглядзеў. Па двары ішоў чалавек у цывільным касцюме і капелюшы — ён толькі што мінуў прахадную будку і цяпер накіраваўся да будынку заводаўпраўлення.

— Хто ён? — спытаў Крыгер.

— Той, што мяне праследваў!... Глядзіце, ён падымаецца сюды!

— Магчыма, да дырэктара?

— Кюметц дома — я сам адвёз яго. Не знайшоўшы яго ён можа зайсці да вас!

— Можа, — прамармытаў Крыгер. — Што ж рабіць? Вам нельга выходзіць — сутыкнецеся з ім у канцылярыі або ля выйсця... Хвіліну! — Ён адчыніў тонкія дзверы у бакавой сцяне кабінета. — Хутчэй, сюды!

Аскер увайшоў і апынуўся ў маленькай каморцы, якая была застаўлена стэлажамі і папкамі. Дзверы зачыніліся.

Неўзабаве ў кабінет пастукалі.

— Калі ласка, — сказаў Крыгер.

Увайшоў Торп. Ён кіўнуў загадчыку канцылярыі, уселся і паказаў пасведчанне...

— Чым магу служыць? — спытаў Крыгер.

— Здаецца, вы член НСДАП?

— Апрача таго і член СС.

— Ведаю. — Торп запаліў сігарэту. Мяне цікавяць вашы механікі.

191

— Іх многа, — асцярожна сказаў Крыгер.

— Пачнем з Ота Шталекера.

У кабінет пастукалі. Увайшла разносчыца папераў.

— Няхай нам не мяшаюць, — прагаварыў Торп. Крыгер кіўнуў.

— Я заняты, Лота, — сказаў ён. — Сюды не ўваходзіць і не ўпускаць.

— Аб Шталекеру хачу ведаць як найбольш, — працягваў Торп, калі дзверы за дзяўчынай зачыніліся.

Крыгер паведаміў, калі Шталекер быў прыняты на завод, дзе і кім працуе.

— Гэта ўсё?

— Я толькі загадчык канцылярыі. — Крыгер развёў рукамі. — А на заводзе звыш трох тысяч рабочых, не лічачы палонных...

— Ну, а што вы скажаце аб шафёру дырэктара?

Торп добра ведаў, што асоба новага шафёра дакладна праверана. Пытанне аб Губэ ён задаў нейк механічна, мімаволі. І, назіраючы за субяседнікам, са здзіўленнем прыкмеціў, быццам цень мільганула па твары Крыгера. Чаму?

Між тым Крыгер напружана думаў. Спачатку Шталекер, а цяпер і Губэ! Хто яшчэ стаў вядомы абверу? І што менавіта вядома?..

— Губэ я ведаю яшчэ менш, чым Шталекера, — абыякава сказаў ён.

(Працяг на стар. 7)

192



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# СУСТРЭЧА Ў БУДАХ

Вёска Буды. Невялічкая, раскінутая па хутарах. Без электрычнага святла, без даезду. Ляжыць у паўднёва-ўсходнім кутку Беластоцкага павета. Людзі жывуць тут наогул небагата. Апрача зборшчыкаў фінансавага аддзела, мала хто наведвае гэтую мясціну.

І вось у суботу 22 чэрвеня бягучага года цішыню вёскі Буды парушыў гоман аўтамашын: дзве кумачкі «Варшавы» і адна прыгажуня «Волга». «Варшавамі» прыехалі госці з Беластока: першы сакратар Павятовага Камітэта ПАРП у Беластоку таварыш Аляксандр Камінскі і наменнік куратара Беластоцкай школьнай акругі таварыш Эдуард Крынскі. «Волгай» прыімчаліся з Варшавы яшчэ больш знатныя госці: пасол у Сейм Польскай Народнай Рэспублікі, старшыня Галоўнага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў, дацэнт доктар Юзэф Квятэк, двух сакратароў ГП СПН — Адам Катвінскі і Генрых Дзенісевіч ды глаўрэдактар «Настаўніцкага голасу» Казімір Вайцеховіч.

Маленькая сялянская хатка, у якой памяшчаецца чатырохкласная Будаўская школа, на сваёй гісторыі яшчэ ніколі не бачыла так знатных гасцей. Прымалі іх тут настаўнікі з васьмі навакольных школ, аб'яднаныя ў настаўніцкім звяне Шымкі.

Гэтае настаўніцкае звяно заняло першае ў павеце, а трэцяе ў ваяводстве месца па спаборніцтве за найлепшыя вынікі ў грамадскай працы. Усе 34 настаўнікі — члены звяна — з'яўляюцца членамі Таварыства свецкай школы, 5 настаўнікаў закончыла ўжо настаўніцкую студыю, 7 вучыцца там зараз, а 8 пачне вучобу ў наступным годзе. Некаторыя настаўнікі Шымкаўскага звяна працуюць у радах нарадовых, іншыя, як дакладчыкі, праводзяць партыйную адукацыю. Настаўніцы амаль у кожнай вёсцы свайго раёна наладжвалі курсы гатавання. Асабліва высокіх вынікаў дабіліся настаўнікі Шымкаўскага звяна ў папулярызацыі чытэльніцтва і ў зборы на грамадскі фонд пабудовы школ.

— Мы вышуквалі тыя кніжкі, якімі найбольш цікавяцца сяляне, — расказвала адна настаўніца, — і супольна з вучнямі старэйшых класаў ішлі проста да гаспадара ў хату і вучні чыталі там у голас прынесеныя кніжкі. Пасля нейкага часу спісак чытачоў у нашай школьнай бібліятэцы папоўніўся новымі прозвішчамі. Сяляне пачалі ўжо самі пазычаць кніжкі.

У зборы на грамадскі фонд пабудовы школ асабліва вылучылася школа ў вёсцы Нэвасады. За гэта Прэзідыум ПРН у Беластоку ўзнагародзіў Навасадаўскую школу тэлевізарам.

Таму вось прадстаўнікі найвышэйшых прафсаюзных настаўніцкіх улад уганаравалі сваёй прысутнасцю апошні ў бягучым школьным годзе сход настаўнікаў Шымкаўскага звяна.

Старшыня Галоўнага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў, пасол Ю. Квятэк асабліва цікавіўся бытавымі справамі мясцовых настаўнікаў. Сустрэча закончылася супольным абедам.

(вр)



Выступае пасол у Сейм ПНР, старшыня ГП СПН, дацэнт доктар Юзэф Квятэк.



Перад ад'ездам настаўніцы запрасілі знатных гасцей супольна патанцаваць.

Фота **В. Рудчык**

# Дасягненні Гайнаўскага павета ў галіне чынаў

У Гайнаўскім павеце на працягу мінулых 9 год пабудавана грамадскім чынам разам 150 км дарог, 12 мастоў, 84 перамычкі, засаджана пры дарогах звыш 36.000 дрэвак. Акрамя таго ў 80 вёсках пабудавана брукаваныя вуліцы. Агульная вартасць рэалізаваных дарожных чынаў у павеце сягае 60 млн. зл., калі фінансавыя сродкі дзяржавы на дарожную гаспадарку складалі суму няпоўных 6 млн. зл. У пабудове гэтых дарог у гадах 1954—1955 прымала ўдзел уся грамадскасць павета. Ініцыятыва будовы дарог грамадскім чынам нарадзілася ў 1954 годзе, на сесіі ПРН. Тады радныя вырашылі, што вялікія патрэбы ў дарожнай гаспадарцы вымагаюць згуртавання намаганняў усяго грамадства павета, паколькі патрэбы гэтыя з'яўляюцца значна большыя ад фінансавых магчымасцей дзяржавы.

У адной з пастаноў прынятага тады рашэння ПРН чытаем, што «Рэалізацыя дарожных чынаў павінна зрабіцца традыцыяй Гайнаўскага павета». Лозунг гэты прыняты і ўведзены ў жыццё так доўга будзе актуальным, пакуль не будуць пабудаваны ўсе дарогі ў павеце. Сёння няма ў павеце грамады, у якой не будавалі б дарог чынам. Грамады спаборнічаюць паміж сабою, што яшчэ з большай сілаю павялічвае размах грамадскіх чынаў.

Смелая ініцыятыва радных, спраўная арганізацыя працы і вопыт органаў рад нарадовых пасадзейнічалі вялікім дасягненням Гайнаўскага павета ў дарожнай гаспадарцы. За свае поспехі павет удзячны таксама матэрыяльнай і фінансавай дапамозе дзяржавы, якая падтрымала ініцыятыву грамадства павета.

У 1963 годзе было аб'яўлена выканаць коштам 9,5 млн. зл. 25 км дарог. Да сённяшняга дня вартасць грамадскіх чынаў сягае ўжо 2 млн. зл. Пабудавана 6 км дарог, а таксама пасаджана ля дарог 8950 дрэвак.

Не толькі грамадскія чыны ахопліваюць дарогі. Вялікія дасягненні ў іх рэалізацыі маюць іншыя галіны нашай гаспадаркі. Меліярацыйныя грамадскія чыны існуюць ад 1957 года, у рэалізацыі якіх было зроблена 20000 мб меліярацыйных равоў. Агульная вартасць рэалізаваных меліярацыйных чынаў сягае 751500 зл.

Ад 1954 года пабудавана пры ўдзеле жыхароў павета 57 крам, а далейшых 26 крам пабудуецца ў бягучым годзе. Пабудова гэтых крам каштавала 11700000 зл., з таго грамадскім чынам 1150000 зл.

Акрамя таго чынам пабудавана шмат прыгожых спартыўных аб'ектаў, якімі з'яўляюцца: спартыўныя пляцоўкі ў Гайнаўцы, Нарве і Белавежы, байдаркавая прыстань у Белавежы, у Гайнаўцы і Кляшчэлях басейны для плавання і г.д. Пабудавана ў павеце грамадскія святліцы, лазні, 14 рэміз, 48 вадасховішчаў.

Найбольш амбітнай грамадай з'яўляюцца Кляшчэлі. Грамадскім чынам выканана працы на агульную суму 8500000 зл. Зараз збіраюць сродкі і матэрыялы на будову грамадскага дома культуры. У грамадзе Кляшчэлі была арганізавана «Зялёная нядзеля», у якой прымалі ўдзел прадстаўнікі ваяводскіх улад, а таксама ўсе жыхары Гайнаўскага павета.

І таму Гайнаўскі павет мае вялікія дасягненні і цэнныя намеры ў чынах, якія побач з інвестыцыяй дзяржавы маюць рашаючы ўплыў на сукупнасць гаспадарчага і грамадскага развіцця павета.

**ЯЗЭП КАЗАК**
Гайнаўка

# МЕЛІЯРАЦЫЯ БАБРОЎКІ

Краявід наваколля вёсак Старое і Новае Ляўкова, Сушчы Барок, Ахрымы і Капітаншчыны вельмі разнародны. Нізіны, што крок пераплятаюцца тут з невялікімі ўзгоркамі, даволі часта парослымі лесам. Гэта краявід, можна сказаць, з тыпова ледніковымі формамі. Гэты куток Беласточчыны адзін з адсталых: няма тут ніякай прамысловасці, людзі, галоўным чынам, жывуць з працы на гаспадарцы. Моладзь на заработкі часта выязджае ў гарады, як Беласток, Гданьск, у Ольштынскае і Катавіцкае ваяводствы. Такое становішча ў сучасны момант змяняецца радыкальна. З незялікага ўзвышша, на якім стаіць Ляўкова, раскрываецца

(Працяг на стар. 7)

# ЛІТАР + 1000 злотых

Пра Аляксандра Грынявіцкага загаварылі, як аб чалавеку моцным не толькі ў руках, але і ў справах. Ён мяснік. Аднак найважнейшае тое, што ён з'яўляецца якімсьці начальнікам у Бельскай бойні і яго слова святое другім.

Уладзіславу Карповічу з Галавеска прышлося дарэзаць кароўку. Здыхала. На бойні Грынявіцкі сказаў:

— Мяса пойдзе на танную ятку з адлічэннем па 2 злоты на кілаграме за распродаж.

— А-яй, яшчэ даплачваць?! — чуць не плакаў Карповіч.

— А хто ж задарма падліну прадасць? — усміхнуўся Грынявіцкі. — Таму і завецца такі гандаль таннаю яткаю, — выясняў не без іроніі.

Хвіліну маўчалі гледзячы сабе ў вочы. Здавалася, Карповіч хоча штосьці сказаць ды не асмельваецца. Грынявіцкі раптам зрабіўся сур'ёзным і буркнуў:

— Можна іначай...

Карповіч быў трохі знаёмым з Грынявіцкім і таму адразу пасмялеў.

— Колькі? — здагадліва запытаў.

— Літар і трыста злотых! Ну! — вымавіў адным духам Грынявіцкі.

Усяго? — хацеў быў здзівіцца Карповіч, але ўкусіўся ў язык.

Карповічаву здыхляціну прынята, як жывую карову. На «левыя» квіты каса выплаціла яму ўтрая больш грошай. Ого, што за дабрадзей гэты Грынявіцкі, каб ён здаровенькім застаўся!

Карповіч трымаў язык за зубамі ды ад вялікай радасці паіў Грынявіцкага ў хаце, і ніяк не мог нацешыцца гэтакай удачаю.

Аднойчы, у тарговы чацвер, перад пунктам скупу ў Бельску ўстанавілася даўжэзная чарга гаспадароў з каровамі. Стаяў тут са сваёю ялоўкаю і Карповічаў зямляк, Куроўскі. Класіфікатар Палавянюк ужо здалёку крычаў, што канчае прыём, бо і так набраў аж замнога.

— Што рабіць?

Куроўскі надта хоча пазбыцца ялоўкі, на гвалт спатрэбіліся грошы ў гаспадарцы. Тут - якtут паявіўся Грынявіцкі.

— Кароўку прадаеце?

— Прадаю, пане мяснік, ды не бяруць. Вось як.

— Не бяруць, — кажаце, — прагаварыў Грынявіцкі расцягваючы словы. — Узяць то ўзялі б, адно трэба...

Куроўскі набожна падняў на яго вочы. Той ледзь не шаптаў сваю цану:

— Літар і трыста злотых...

Ясна. Куроўскі цягне карову ўслед за Грынявіцкім. Падыходзяць да вагі. Палавянюк вылупіў вочы:

— Я не прымаю больш!

— Гэта штука для нашай бойні, — спакойна выясніў Грынявіцкі.

— Ага, — згадзіўся Палавянюк і пачаў важыць. Выпісаў паперку.

Куроўскі доўга вёў рагулю. Па дарозе спатыкаў знаёмых; прасіў, каб патрымалі яе за вяроўку, а сам бег у краму па манапольку, закуску. На бойні ўжо чакаў яго Грынявіцкі і... Карповіч. Дайшоў нейкі незнаёмец.

— З мяснікам знацца добрая рэч, — тлумачыў Карповіч Куроўскаму.

Пілі разам. Куроўскі зусім перастаў шкадаваць выдаткаў. — Не жарты, у патрэбе дапамог!

Штораз далей і шырэй ішоў розгалас аб мясніковай дабразычлівасці. Вось, Пташынскі пару разоў выводзіў на кірмаш карову. Аднак ніхто не квапіўся з купляю. Тады рашыўся наведаць пункт скупу. Класіфікатар даваў не болей, як за ІІІ-ці клас.

Пташынскі з надзеяй заморгаў. Убачыў Грынявіцкага, як на пункце выбірае ён каровы ў бойню.

— Памажыце, — папрасіўся Пташынскі. — Карова вартая ІІ класа...

— Чатырыста злотых дасі? — панура перабіў яму Грынявіцкі.

— Дзвесце, паночку.

— Не, нічога не выйдзе...

— Ну, трыста! — узмаліўся Пташынскі. — Больш не маю.

— Хай будзе, — мяснік падышоў бліжэй.

Пташынскі, аглядаючыся, піхнуў яму ў далонь скрутак банкнотаў.

Класіфікатар спяшаў канчаць работу. Ні аб чым не спрачаўся. Выдаў квіт. Удзячнасць Пташынскага для мясніка не мела граніц. І, калі Грынявіцкі папрасіў яго, каб ён пад сваім прозвішчам прадаў мясніковую карову, Пташынскі выканаў ягоную просьбу з радасцю. Здаў яе ў І класе.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ГЛЕБА ПРОСІЦЬ КАЛЬЦЫЯ

Статыстыка не з'яўляецца цікавай. Хопіць глянуць на табліцы, каб пераканацца, што многія нашыя сяляне не разумеюць важнасці праблемы. Тым часам моцна кіслыя глебы даюць нізкі ўраджай. Іншыя працэдуры памагаюць у малой ступені, або наогул не выказваюць дзеяння.

Доследы Беластоцкай хімічна - сельскагаспадарчай станцыі, праведзеныя між іншым у Бельскім і Гайнаўскім паветах, далі такія вынікі: глебы вельмі кіслыя — 31 і 25%, кіслыя — 43 і 49%, мала кіслыя — па 20% і абыякавыя — па 6% (на першым месцы даныя з Гайнаўскага павета).

Не трэба быць вялікім знаўцам праблемы, каб сцвердзіць, што сітуацыя вельмі трывожная. Аказваецца, што каля 3/4 глебы ў гэтым раёне характарызуецца вялікай кіслотнасцю. Патрабуюць яны вапнавання і то ў вялікай колькасці. Гэтая працэдура павінна быць зроблена нават пад такія расліны як жыта і бульба, якія даюць добрыя ўраджаі, калі глеба мала кіслая.

Якія акрэсліць патрэбы глебы ў галіне вапнавання? У тых грамадах, у якіх праведзена доследы, знаходзяцца спецыяльныя карты, якія гавораць аб ступені кіслотнасці глебы, а таксама аб колькасці ў глебе фосфару і калія. На гэтай падставе ўстанаўліваем велічыню доз вапнаваных угнаенняў.

Калі доследы не праводзіліся, тады можна ўстанавіць патрэбы на падставе пробы зробленай звычайным палявым пегаметрам.

Аб ступені кіслотнасці гавораць таксама некаторыя расліны як: шчавік, трохкаляровая фіялка, палявы грымотнік і г.д. Калі будуць якія-небудзь сумненні, тады трэба зрабіць пробы з кіслотнасцю на малым кусочку зямлі (пад гарох, цукровыя буракі ці канюшыну).

Велічыня доз вапнавых угнаенняў будзе залежыць ад: якасці глебы, ступені кіслотнасці, а таксама пасеянай расліны. На лягчэйшых глебах даем кальцый часцей, але ў малой колькасці з увагі на вельмі хуткае гніенне.

Пры вялікай кіслотнасці ніводная расліна не дасць высокага ўраджаю — яе рэакцыя павінна быць даведзена да нормы.

Найменш уражлівыя на кіслотнасць з'яўляюцца расліны: жоўты лубін, бульба, жыта, авёс. Большыя патрабаванні маюць: чырвоная канюшына, пшаніца і рапс. Цукровыя буракі, гарох і ячмень патрабуюць абыякавай глебы, або мала кіслай. Найбольш патрабавальная люцэрна.

Маем у продажу ўсялякія вапнавыя ўгнаенні: паленая вапна, вапнавы пыл, вапняк молаты, угнойваемая крэйда, глінясты мергель, луговая вапна. Тыя ўгнаенні, якія вельмі хутка дзейнічаюць, стасуем на цяжкіх глебах, глінястых (паленая вапна). Даем тады — у залежнасці ад абмеркаваных фактараў — ад 10 да 30 ц угнаення на гектар.

Найлепшым тэрмінам вапнавання з'яўляецца пасляжніўны перыяд. Гэтая працэдура павінна быць уключана ў комплекс пасляжніўных прац. Угнаенне сеем у час добрага надвор'я і зараз яго прыкрываем. Павінна яно быць добра вымешаным з глебаю і звязацца з ёю перад сяўбою раслін.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

# ЛЯВОНЬКА

(Працяг са стар. 3)

— Каб якось Лявоньку з вашай Гануляй пажаніці.

А маці Ганулі кажа:

— Яна ў нас яшчэ маладая, рабіці яшчэ добра не ўмее, любіць смачна паесці і доўга паспаці дый пасагу яшчэ мала мае.

А сват кажа:

— Усё гэта глупства. Багацтва нам непатрэбна, абы толькі ўмела есці зварыці, ды Лявоньку дагледзела, кашулю вымыла.

— Праўда, — кажа Лявонька. А сам думае, як бы хутчэй дагаварыцца да таго вяселля. І кажа:

— Каб згадзілася выйсці за мяне замуж вашая Гануля, то ёй у мяне кепска не будзе. Бо ў мяне ёсць такая торба, што ўсё паробіць, ёй цяжка не будзе, а есці таксама не забракне, усё ж такі гаспадарка не малая, купаваці яды не трэба. І спаці будзе дакуль захоча. — А сам думае, каб я ано ўзяў цябе ў свае рукі, то ўсяго навучыў. Бацькі згадзіліся аддаці Ганулю за Лявоньку. Адгулялі вяселле. Пагаспадарылі яны з Лявонькам разам пару тыдняў і Лявонька кажа:

— Мне трэба ехаці ў поле араці.

Поле было далёка і трэба было выехаці з дому рана. Лявонька прыгатовіўся і прышоў у хату ўзяці торбу, што ўпярод браў у яе абед у поле. Павесіў на гвоздзі ды кажа:

— Ты ж глядзі, торба, каб усё парабіла, каровы падаіла, у поле выгнала, свінні і авечкі таксама ў поле выгнала. Каб уся работа была пароблена, бо як не паробіш, то я табе пакажу і навучу, як не слухаці і работы не пільнаваці. А Гануля ляжыць на печы ды чуе гэткія рэчы і думае:

— Добра гэта, я буду цэлы дзень спала.

А Лявонька забраўся ды і паехаў у поле. Гануля праляжала да поўдня, злезла з печы, паела, на торбу паглядзела і зноў гоп на печ ды і хутка заснула. Праснулася позным ужо адвячоркам. Высадзіла галаву з-за печы ды гаворыць да торбы:

— Торба, а торба, чаго вісіш на гваздзю, як бы на выстаўцы. Злазь ды ідзі работу рабіці. Паўслухайся, які гоман жывёла падносіць, як бы пчолы ў вулею, а ты сабе нічога з гэтага не робіш. Ой, будзе табе, будзе, як мой мужык вернецца з поля.

А торба далей сабе вісіць, а Гануля далей спіць. Едзе Лявонька з поля, сустрэў у вёсцы свайго дзядзьку Арцёма, і пытае яго, што чуваць у вёсцы. Дзядзька адказвае:

— Нічога асаблівага, толькі штосьці ў тваёй гаспадарцы вельмі жывёла гук творыць, як бы ў часе пажару. Мусіць твая торба нічога не парабіла і не дагледзела жывёлы.

А Лявонька засмяяўся ды і кажа:

— Нічога, дзядзька, я сягоння ўсё да парадку давяду і навучу торбу, як пра ўсё дбаці.

Прыехаў Лявонька ў панадворак, праўда, што гуку многа. Каровы рычаць, свіні крычаць, авечкі бэчаць, сабака вые аж страх услухацца, але Лявонька страху не меў. Прыйшоў у хату, запаліў у печы, пайшоў дагледзеў усёй жывёлы, узяў добры кусок мокрага пастронка і прыйшоў у хату, падыйшоў да торбы і пачаў лаяць яе. А Дзядзька Арцём стаіць пад акном ды слухае і хоча пабачыць, як Лявонька з торбаю будзе спраўляцца. Бо Лявонька за дзела ўжо ўзяўся.

— Чуеш торбо, чаму ўсяго таго, што я табе прыказаў, не парабіла? А Гануля з бабскай ухваткай:

— Гэта і я ўжо ёй гаварыла, ды ўстыдзіла, ды да работы выпраўляла.

Лявонька кажа:

— Ну жонка, злазь з печы, бяры торбу на плечы, пакараем ды навучымо, як не слухацца работу рабіць.

І скочыла хутка Гануля з печы. Лявонька надзеў ёй торбу на плечы, узяў Ганулю за левую руку ды пачаў па торбе біці ды так гаварыці:

— А ты сякая, а тыператакая, а чаму не робіш ды мяне не слухаеш, а мусіш паслушнай быці ды ўсё рабіці, ды даглядаці, каб быў парадак у гаспадарцы і ў хаці.

А мокрым пастронкам усё джах ды джах па торбі, аж падскаквае торба ў Ганулі на плячах, а Гануля круціцца наўкола Лявонькі, як бы ў танцы, ды вырвацца не можа. А Лявонька джах ды джах, ажно Гануля загаласіла:

— Пусці Лявонька, міленькі мой, бо руку вырвеш.

У той самы час і дзядзька Арцём пад акном стоячы крыкнуў:

— Годзі Лявонька, перастань. Так не можна моцна караць торбу.

Тут Лявонька пусціў Ганулiну руку і не знае, хто гэта гаворыць, а Гануля ў гэты момант схапіла торбу з плеч ды і кінула ў печ, дый сказала:

— Згінь ты, згары торба.

А Лявонька кажа:

— А хто ж будзе цяпер рабіці, як ты торбу спаліла? Прыдзецца другую набываці.

— Ды не трэба, — кажа Гануля, — я буду рабіці.

— А ты ж не ўмееш, ды табе цяжка, бо ты маладзенькая.

— Глупства, яшчэ цяжэй мне будзе рабіці і ад работы цярпеці, як ад торбінай кары.

Лявонька, караючы торбу, прывучыў Ганулю да работы і паслушэнства. На другі дзень паехаў у поле яшчэ раней і вярнуўся яшчэ пазней у вечары. Сустрэў яго дзядзька Арцём ды кажа:

— Маладзец ты, Лявонька, каб не тая торба, то яшчэ б далей ты мусіў бы ўсю работу сам рабіці. А сёння ўся работа і жывёла ў цябе ў парадку, ды ў хаце прыгожа.

А Лявонька засмяяўся:

— Скуль вы дзядзька ўсё знаеце? Хіба гэта вы крычалі пад акном, каб я перастаў торбу караці?

А дзядзька кажа:

— Я пайшоў, Лявонька, пааглядаў усё кругом, усё было пароблена па-гаспадарску.

Лявонька прыйшоў ухату, паўглядаўся, што такі парадак па ўсёй хаці. І вячэра наварана, у міску наліта, на стале стаіць, хлеб і лыжка ляжаць. Лявонька засмяяўся весела ды кажа:

— Хто тобе, Гануля, памагаў парадкі рабіць? Хіба маці прыходзіла, бо работы ўжо ж нямала.

А Гануля плюнула і адказала:

— Больш ні слова пра торбу, а мама мне тады прыдзе ды паможа, як я мамаю буду, а ты Лявонька вячэрай і лягай адпачываці.

Прыслаў ЯНКА ТАРАСЕВІЧ з Пянькоў, Беластоцкага павета.

# АБ ТЭАТРЫ

(Працяг са стар. 1)

Як сабе ўяўляю такі пачатак? Праз запрапанаванне тым здольным людзям з вясковых драмгурткоў працу ў драмгуртку ГП. Ахвотных знойдзецца напэўна не мала, якія і жыллёвую праблему вырашаць самі. Ды і ў Беластоку ёсць людзі, нават такія, што ігралі ў някепскіх драмгуртках раней. Выступленні драмгуртка былі б платныя (цэны даступныя) і з такога заробку гуртkoўцы атрымлівалі б свой ганарар. Каб больш зарабіць, яны павінны часцей выязджаць, больш выступаць, а пра гэта ж якраз ідзе рэч. Гурток такі з рацыі абслугоўвання вёскі, як і «Лявоніха», павінен быць лёгкі, што не цяжка асягнуць.

Рэпертуар. Тут то наша ахілесавая пята. І яшчэ адзін доказ, што зарана думаць аб дзяржаўным тэатры. Бо тое, што драмгурткі на вёсках неяк радзяць з рэпертуарам (усё іграюць «Мікітавага лапця» ды «Пярэстую красулю») абсалютна не сведчыць аб базе для працы прафесіянальнага тэатра. Нават прапанаваны гурток ТП не зможа працаваць з такім рэпертуарам, які цяпер маем. А п'есы з БССР зноў мала падыходзяць для нашых умоў. Усё гэта важна, найважнейшае, калі хацець пачынаць працу сур'ёзна, працу, якая можа прывесці ў будучыні да паўстання Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Польшчы.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

## УВАГА, ВЫПУСКНІКІ САВЕЦКІХ ВУЗАЎ!

**Ваяводскае праўленне ТППР хоча наладзіць сустрэчу выпускнікоў савецкіх вузаў. У сувязі з гэтым просіць усіх, хто закончыў вышэйшую адукацыю ў СССР, і цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, скантактавацца пісьмова з Праўленнем (Zarząd Wojewódzki TPP-R w Białymstoku, ul. Sienkiewicza 3).**

**У пісьме трэба падаць адрас, на які Ваяводскае праўленне ТППР будзе кіраваць карэспандэнцыю.**

# ТУРМА

— Няма чаго дзіваваць, бо як жа іначай мог знаёмы класіфікатар ацаніць карову знаёмага мясніка?

Толькі нядаўна Пташынскі надта здзівіўся, калі даведаўся, што тады яго кароўку прынята ўсё ж у III-ім класе, а не ў другім — як яму хацелася. Не згледзеўся ў ашуканстве — у пісьменнасці слабы, не разбіраецца ў паперах. А Грыняўвіцкі ўзяў хабар і нічагуткі не зрабіў, і не думаў рабіць. Проста, выкарыстаў сляпую веру чалавека ў знаёмствы і падкупнасць. Выкарыстаў спешную патрэбу Куроўскага і выцягнуў ад яго ні за што некалькі сот злотых. Зрабіў сваім спольнікам Карповіча, што бясправна набраў дзяржаўных грошай, якімі, напэўна, не раз яшчэ быў вымушаны дзяліцца... і маўчаць.

Кажуць — апетыт расце ў меру яды... Пачаліся таемныя дзівы і ў самой бойні. Неяк прыпёрся з Грабаўца Аляксандр Кавальчук з кароваю, якая не змагла ацяліцца. Пакуль зрабілі што трэба і адабралі чыстае мяса, пазнавата стала.

— Прыязджайце заўтра, — гаворыць Грынявіцкі. — Адважым, зробім ацэнку.

Назаўтра Кавальчук — увесь прыбіты няшчасцем — астаўбянеў дарэшты, пачуўшы, што ад яго каровы, нармальнай каровы, — атрымалася ўсяго... 80 кілаграмаў мяса!!!

— Людкове добрыя, дык парсюк больш важыць, а тут усё ж не абы якая рагуля!

Такога штосьці свет не бачыў — не чуў! Але Аляксандр Грынявіцкі цалкам усур'ёз цвердзіў Аляксандру Кавальчуку, што тутака няма ніякай хітрасці, ані подласці, ані зладзейства...

Нават на так яўнае надувальніцтва Кавальчук не шукаў ратунку. Няўжо паверыў Грынявіцкаму?!

Не памыляюся, калі скажу, што Карповіч і Куроўскі або Пташынскі не з'яўляюцца першымі і астатнімі ахвярамі мясніковых камбінацый. Такіх людзей назбіралася б дзесяткі адусюль. Сядзяць яны ціхутка, бо думаюць, што папаўся ім вялікі шанц і толькі часамі вельмі блізкаму сваяку шапнуць на вуха, каб на выпадак патрэбы шукаў падмогі ў Грынявіцкага.

— Ну, таго, Аляксандра Грынявіцкага; хіба чуў аб ім. Адно трэба паціху... Разумееш!?

* * *

Кар'ера Грынявіцкага — мясніка, здаецца, канчыцца раз назаўсёды. Караных на працу ў бойню не прымаюць.

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



На здымку: Блочны шчыт кіравання Бярозаўскай ДРЭС.

# ЛЁС КАЧАГАРА

Кацельня. Качагар. З гэтымі словамі людзі заўсёды звязвалі цяжкую працу чалавека. І гэта не беспадстаўна. Качагару штодзённа прыходзіцца працаваць ля вогнедышнай печы, пераварочваючы горы вугалю або торфу.

Гэтак было і на Бярозаўскай дзяржаўнай раённай электрастанцыі — адной з буйнейшых у Беларусі. Нялёгка тут прыходзілася качагару Івану Дуцу. Печ, якую ён абслугоўваў, за змену праглынала тоны апалу. Да канца працы Іван стамляўся. А калі прыходзіў дахаты, старая маці звычайна гаварыла:

— Кінуў бы ты гэтую працу, сынок. Ці няма больш падыходзячай?

— Не, мама, — адказваў Іван. — Мы жывем у час аўтаматыкі. Я пераконаны, што праца качагара з часам зменіцца. Яе будуць выконваць машыны, а чалавек — кіраваць гэтымі машынамі. А для гэтага трэба вучыцца. Я ўжо займаюся на тэхнічных курсах. Вучуся на машыніста, справы ў мяне ідуць добра...

У хуткім часе на электрастанцыі адбыліся радасныя перамены. У яе печах зырка запалала блакітнае полымя прыроднага газу, абсталяванне прадпрыемства папоўнілася новымі механізмамі і прыладамі. І хаця калектыў застаўся той самы, але людзі значна выраслі.

Былы качагар Іван Дуц закончыў тэхнічныя курсы і сеў за пульт кіравання. Зараз ён не клапоціцца пра печку, каб падтрымліваць патрэбны ціск у катле, а ўважліва сочыць за працай шматлікіх апаратаў. Механізмы аўтаматычна рэгулююць падачу апалу, ціск пары ў катле, падтрымліваюць патрэбны рэжым працы станцыі. Калі раней кацёл абслугоўвала пяць рабочых, то зараз яго абслугоўвае ўсяго адзін чалавек.

Упэўнена адчувае сябе былы качагар, а зараз машыніст Іван Дуц за складанымі і «разумнымі» апаратамі. З штатнага раскладу калектыва электрастанцыі прапала слова «качагар», яго месца заняло слова «машыніст» на котлаагрэгаце.

МІКАЛАЙ БАГДАНІК

### АДЭНАУЭР АДМАЛОДЖВАЕЦЦА ЎКОЛАМІ ПА 200 ДОЛАРАЎ АДЗІН

Амаль 90 год Адэнаўэру. А здаровы, жвавы, як рэдка хто ў такім узросце. Факт гэты зацікавіў як палітыкаў так і лекараў. Адзін нямецкі медыцынскі часопіс выявіў нядаўна пэўныя дэталі. Менавіта, Адэнауэр ужо даўжэйшы час праводзіць сістэматычную курацыю, якая адмалоджвае. Спосабы гэтыя вядомы лекарам. Многія ўжо стасавалі іх для старых людзей звыш 70 год. Ды наогул было так, што калі пацыент адчуваў сябе лепш, перарываў лячэнне і вынікі былі слабыя. Адэнауэр прымяняе сістэматычнае лячэнне. Нядаўна Адэнауэр перайшоў на спосаб, які вынайшлі швейцарскія лекары. Гэта ўколы з экстрату з зародка страуса, які дастаюць з яйка толькі 20-цідзённага. Кошт аднаго такога ўколу 200 доларыаў.

(авл)



«Міс Японіі» 1963. Убор розніцца ад еўрапейскага, праўда? Што ж, аб густах не спорацць. (вл)

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ПОМНІКІ ЯК ГОРЫ

Блэк Хілс, або Чорныя Горы, як празвалі іх мясцовыя індзейцы, знаходзяцца ў амерыканскім штаце Паўднёвая Дакота. Да 1870 года рэдка хто з еўрапейцаў асмельваўся сунуць нос у гэтыя горы. Зазвычай, такі смяльчак гінуў ад індзейскай стралы, а яго скальп служыў аздобаю пояса чырвонаскурага ваёўніка.

Аднак, калі разышлася чутка, што ў Блэк Хілс можна знайсці золата, хцівасць перамагла страх і гурнулі сюды цэлыя натоўпы аматараў лёгкага хлеба. Індзейцы не змаглі ўстаяць супроць гэткай масы і амаль усе загінулі. За першыя 25 год здабыта тут золата вартасцю ў 350 мільёнаў долараў.

Але даўно прайшоў той час, калі па розных рэчках і рачулках валачыліся хмары прыблудаў у пошуках залатога пяску. Белыя асаднікі карысталі тады прадаючы ім харчы і адзенне. Цяпер давялося прыдумаць штосьці такое, каб зацікавіць гэтымі аколіцамі турыстаў. (залаты пясок вызбіраны!) Такое «штосьці» прыдумаў пасля першай сусветнай вайны нейкі Борглум, нікому невядомы мастак. Прыбыўшы да Блэк Хілс, спадабаў сабе стромкую гранітную гару вышынёю ў 1841 метр. Вырашыў выкаваць у ёй помнікі чатырох найбольш заслужаных прэзідэнтаў Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі.

Борглум кіраваў работаю памочнікаў, якія пры дапамозе толу і электрычных свёрдзел рвалі граніт. Седзячы на вузкай лавачцы павіснутай над паўкіламетравай пропасцю, дапільноўваў ён цэласці. Памалу атрымаліся першыя рысы гіганцкіх скульптур. Борглум не дажыў заканчэння работы разлічанай на дваццаць год і даручыў яе свайму сыну.

Так створана велізарныя помнікі Вашынгтону, Джэферсону, Лінкольну. Рузвельту. Іх твары маюць па 21,3 метраў — значыць столькі, колькі вышыня славутага егіпецкага Сфінкса. Від чатырох грамадзін — волатаў, што паказваюцца ўжо здалёку між хмар і імглы, робіць вялікае ўражанне нават на прайдзісветаў, не гаворачы пра звычайных амерыканскіх турыстаў. Таму летамі зноў хлынуў у Блэк Хілс шумлівы народ і... грошы.

А вось скульптар і фермер у адной асобе Карчак - Зюлкоўскі пастанавіў стварыць нешта яшчэ большае чым помнікі Борглумаў. Непадалёку сваёй фермы закупіў гранітную скалу вышынёю 200 метраў і даўжынёю 240 метраў. Пачынаючы ад 1948 г. ўзяўся выкоўваць з яе постаць былога індзейскага правадыра, грозна званага Шалёным Канём. Праца разлічана на трыццаць год...

Тым не менш ужо цяпер турысты, якія праязджаюць на шасэ №16 праз Блэк Хілс, ахвотна наведваюць малочную ферму Карчак-Зюлкоўскага. Плацяць яму па тры чвэрці долара ад асобы за тое, што Карчак раскажа ім аб сваіх гіганцкіх планах і пакажа гэтую скалу, якая слаба яшчэ нагадвае коннага індзейца, хаця не адзін ужо вагон граніту вырубаў і вывез адсюль энергічны фермер.

(а-ся)



Агляд Лінкольнавага носа...

# ЦІ БУДЗЕМ ЖЫЦЬ 200 ГОД

— Чаму адзін чалавек можа пражыць 100 гадоў у добрым здароўі, а другі, асягнуўшы 65 год, адчувае сябе няўклюжым старцам? — дае пытанне Амерыканскі вучоны др Бйоркстэн.

Сучасная медыцына намагаецца пераадольваць хваробы і бараніць чалавека перад імі. Калі аднак дапусцім, што ўдасца перамагчы рака, хваробы сэрца, заразлівыя, нервовыя і іншыя хваробы, то сярэдні ўзрост чалавека і так не будзе шмат большы ад цяперашняга. Вядома, што такі стан рэчы не заспакойвае амбіцый сучаснай навукі.

Старасць з'яўляецца вынікам безупыннага паменшвання ўстойлівасці арганізма. Такая ж самая хвароба не прычыніцца да заламання арганізма 15-гадовага юнака, але без сумнення моцна адчуе яе 90-гадовы старык. Дзевяноста працэнтаў выпадкаў смерці адбываецца не з прычыны хвароб тыповых для старэйшага ўзросту, але ў выніку паменшання ўстойлівасці арганізма.

Др Бйоркстэн ставіць гіпатэзу, што прычынай аслаблівання ўстойлівасці арганізма з'яўляецца злучэнне паасобных частак у рамках клеткі. Калі затым існуе нейкі фактар, які прычыняецца да злучэння частак, дык трэба шукаць спосабу на ліквідацыю гэтых злучэнняў. Шукаць нейкай субстанцыі, якая пры адпаведных даўках у пачатку старасці чалавека, затрымала б працэс абмірання клетак. І гэта менавіта быў бы той легендарны эліксір жыцця.

Дзе ж можна знайсці такую субстанцыю? Др Бйоркстэн унушае, што гэта можа быць, напрыклад, элостаза або некаторыя бактэрыі, якія жывуць у глебе. Зразумела, што неабходны тут яшчэ шматлікія доследы. Але ўсё гэта несумненна аплоціцца, калі лічыць, што эліксір жыцця можа стацца агромным дабрадзействам чалавецтва.

— Старасць, няўклюжнасць і хуткая смерць зусім не з'яўляюцца непазбежнымі. А прадаўжэнне жыцця да граніцы 200 гадоў — гэта не фантазія, — сцвярджае др Бйоркстэн.

апр. (вб)

# Спартыўныя навасці

**Рыба-не рыба, лодка-не лодка. Аднак лодка спартыўная, вельмі вузкая і вельмі лёгка перакульваецца. Ды ад чаго спартыўны рэфлекс і ад чаго спаборніцтвы? Што за штука плыць на шырокай лодцы? Гэта патрапіць абы хто.**

**Здымак з французскай Рыв'еры. (вл)**





© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

